# Віншуем са святам Уваскрэсення Хрыстова!

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 43(5225)
Субота,
14 красавіка
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 50 руб.*

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Права выбару павінны мець і настаўнік, і вучань, і бацькі

**Аляксей Гарадовіч, дырэктар базавай школы № 72 Мінска:**

— У верасні гэтага года наша школа будзе адзначаць свой 40-гадовы юбілей. Пятнаццаць гадоў школа працуе як беларускамоўная (з першага па дзевяты класы ўсе прадметы, акрамя замежных моў, выкладаюцца на беларускай мове; на роднай мове вядзецца справаводства). Варта адзначыць, што наша навучальная ўстанова — адзіная ў сталічным раёне Дражня, і гэта акалічнасць ускладняе працу педагагічнага калектыву: навучанне дзяцей арганізавана ў тры змены, памяшканне патрабуе рамонту і пашырэння вучэбнай прасторы. Аднак нягледзячы на такія абставіны ў школе працуюць высокакваліфікаваныя таленавітыя настаўнікі (некаторыя з іх — 25-30 гадоў), адданыя сваёй педагагічнай справе.

Беларускамоўнае навучанне дзяцей мае сваю спецыфіку і часам ускладняе працу настаўнікаў. Так, напрыклад, цяпер паўсюдна ў школах асвойваецца і ўкараняецца ў практыку навучання пачатковаўцаў новая тэхналогія "Крок за крокам". У Мінску шмат школ удзельнічае ў эксперыменце па выкарыстанні гэтай тэхналогіі. Але ж яна распрацавана толькі на рускай мове, і ўсе метадычныя дакументы, праграма таксама, прапаноўваюцца толькі ў рускамоўным варыянце. Метадычных распрацовак на беларускай мове наогул не існуе. Нашым настаўнікам прыходзіцца самім перакладаць гэтыя распрацоўкі на беларускую мову. Такія ж справы і з асобнымі прадметамі (перакладаем задачы па фізіцы, самі робім карткі нагляднага матэрыялу і інш.). Уся гэтая праца вымагае шмат часу, а то і настаўніцкіх грошай і, на жаль, ніяк не стымулюецца з боку дзяржавы. Ці не прасцей было б зрабіць нагляднасць у друкарні ды і методыкі перакласці на беларускую мову, каб вызваліць настаўніка, зрабіць яго ўзаеміны з вучнямі больш эфектыўнымі. Наша школа працуе па адаптыўнай тэхналогіі навучання (гэта прадугледжвае выкарыстанне на ўроку кожным вучнем свайго модуля патрабаванняў), але ў нас няма ксеракса, паперы, каб забяспечыць вучняў адпаведнымі матэрыяламі. Мы за новыя тэхналогіі і методыкі, але ж нашым настаўнікам патрэбна пэўная свабода — мець права частку праграм скарачыць прыкладна на 25-30 працэнтаў, выключыць з іх тое, што, на наш погляд, не патрэбна дзецям і стварае перагрузку ў іх навучанні (бо гэта, згадзіцеся, адмоўна ўплывае на іх здароўе).

Сёння навучальныя праграмы перагружаны тэарэтычнымі ведамі, якія проста не засвойваюцца вучнямі. Шмат гадзін у базавай школе адведзена на такія прадметы, як матэматыка, фізіка, а вось зусім зніклі з праграмы этыкет , не выкладаецца этыка, мала часу адводзіцца на такія прадметы, як маляванне, чарчэнне. У пачатковых класах знікла каліграфія (вучні сталі вельмі дрэнна, неразборліва пісаць). Лічу, што галоўнымі ў пачатковай школе павінны быць прадметы гуманітарнага цыкла і фізічная культура. Так у нашай школе можна зрабіць абавязковымі для навучання прыкладна шэсць прадметаў, а астатнія могуць выкладацца па выбары. Дзецям і бацькам варта даць права выбіраць і вывучаць тыя прадметы, якія для вучня больш патрэбныя.

Калі б у мяне была магчымасць выступіць на з'ездзе настаўнікаў, я б у першую чаргу "забіў у званы" і звярнуў увагу на становішча сучаснай сям'і, на тое, што многія бацькі пераклалі адказнасць за выхаванне сваіх дзяцей цалкам на школу. Ва ўсіх здзейсненых падлеткамі злачынствах "вінавата" школа, а бацькі юных парушальнікаў не знаходзяць часу з'явіцца на пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх, дзе разглядаецца правапарушэнне іх сына, не прыходзяць у школу, абыякава ставяцца да навучання, выхавання, здароўя сваіх дзяцей. Часам мы, настаўнікі, назіраем, як на ўрокі прыходзяць галодныя дзеці і пачынаем збіраць грошы, каб іх накарміць у школьнай сталоўцы.

Школа павінна праводзіць прафілактычную работу з вучнямі, супраць ужывання наркотыкаў, курэння і інш. Але ж дзе праграмы барацьбы з нарказалежнасцю, алкагалізмам, таксікаманіяй, калі будуць праграмы для работы з падлеткамі, якія маюць дэвіянтныя паводзіны? Іх павінны ствараць навукоўцы, адпаведныя спецыялісты, але пакуль гэта робіць школа. Наш педагагічны калектыў стварыў дванаццаць мэтавых праграм; перспектыўны план развіцця школы налічвае паўтары тысячы старонак. І гэтая праца настаўнікаў нідзе не ўлічана і належным чынам не адзначана. Мы працуем па гэтых праграмах штодзённа. І штодзённа супраць нас, нашых выхаванцаў "працуе" тэлебачанне, выплёскваючы са сваіх экранаў брыдкаслоўе, агрэсію ў паводзінах людзей, сексуальную разбэшчанасць. Настаўніку цяжка працістаяць такой навале.

**Падрыхтавала да друку Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

## Усё пачынаецца з сям'і

**Валянціна Пятроўна Кухарчук, галоўны спецыяліст аддзела адукацыі Камянецкага раёна па абароне правоў дзяцінства:**

— Займаючыся праблемамі дзяцей ужо амаль дваццаць год, пераканалася, што ўсё пачынаецца з сям'і, якой неабходна ўдзяляць галоўную ўвагу. Калі раней мы адзін раз у 3-4 гады пазбаўлялі бацькоўскіх правоў аднаго-двух чалавек, то сёння сітуацыя рэзка змянілася ў горшы бок. Узнікла праблема дзяцей, ад якіх адмаўляюцца. У студзені 2000 г. у нас адмовіліся ад немаўлят дзве маладыя мамы. Гэтыя жанчыны не жадаюць нават бачыць сваіх дзяцей. Патрабаванні да сям'і неабходны больш жорсткія.

Гаворачы аб праблемах падлеткаў, мы зноў вымушаны вяртацца да сям'і. На камісіі па справах непаўналетніх адразу выяўляецца сапраўднае стаўленне бацькоў да парушэнняў іх сына ці дачкі. Напрыклад, яны здзіўляюцца і адразу становяцца на неапраўданую абарону свайго дзіцяці, але ж бацькоўская любоў павінна быць разумнай. Інакш падлетак і ў другі, і ў трэці раз трапляе ў ІСН, а вынікі бываюць самыя жудасныя. Калі ж у сям'і лад, узаемаразуменне і бацькі разумеюць, што іх дзіця спатыкнулася, ведаюць, як яму дапамагчы, — падлетак фактычна не трапляе больш у поле зроку праваахоўных органаў.

Прафілактыкай злачынстваў сярод непаўналетніх з'яўляецца занятасць падлеткаў. Калі камплектуюцца гурткі, секцыі, мы адразу ставім перад школай і пазашкольнымі ўстановамі пэўныя патрабаванні. Трэба пракантраляваць, каб у гэтыя секцыі абавязкова ішлі дзеці, якія знаходзяцца на ўнутрышкольным уліку. Дарэчы, не ўсе яны хочуць займаць свой вольны час, аднак прапаноўваць, не чакаючы ініцыятывы, проста неабходна. Ні адно злачынства не здзейснена падлеткам у вучэбны час. Гэта сведчыць аб тым, што хлопец ці дзяўчынка пражываюць у сям'і, дзе няма ніякага кантролю. І пасля гэтага ці трэба здзіўляцца, як востра стаяць пытанні дзіцячай злачыннасці.

**Падрыхтавала Вольга ДУБОВІК.**

## Высокопреосвященнейшему Митрополиту Минскому и Слуцкому Филарету, Патриаршему Экзарху всея Беларуси

*Ваше Высокопреосвященство!*

Позвольте от всего сердца поздравить Вас со Светлым Праздником Святой Пасхи Христовой!

Канун Великого События вновь наполнил нас ожиданием прикосновения к величайшей Тайне — воскресению ***"первенца из умерших"***. Торжество над самым страшным для человека злом — смертью дает нам силы обрести смысл жизни, открывает наши души для встречи с миром, для принятия истинных ценностей.

И как велика роль Церкви, которая, являясь хранительницей Святого Таинства, дарит нам возможность встречи с ним! Этим она оказывает незаменимую поддержку учительству в его подвижническом труде во имя восторжествования в человеке духовного начала, помогает нам глубже постичь высокое предназначение дела воспитания и образования подрастающего поколения: ***"сеется тело душевное, но восстает тело духовное"***.

В эти светлые праздничные дни позвольте от имени белорусского учительства высказать слова искренней благодарности за Ваше неустанное духовное служение и пожелать Вам, чтобы радость этих Дней пребывала с Вами во всех Ваших деяниях!

**Министр В.И.СТРАЖЕВ.**

## Юныя вучоныя пакараюць Амерыку

***Трое нашых школьнікаў прымуць удзел у Сусветным аглядзе навуковай і інжынернай творчасці юных Jntel ISEF, які адбудзецца ў маі гэтага года ў амерыканскім горадзе Сан-Хасе, штат Каліфорнія. Гэта Міхаіл Сварычэўскі, вучань сярэдняй школы № 60 Гомеля, Аляксандр Салаўёў, вучань сярэдняй школы № 19 Гродна, і Міхаіл Барынаў, навучэнец ліцэя № 2 Мінска. Гэтыя хлопцы атрымалі такое ганаровае права, заваяваўшы перамогу ў рэгіянальным конкурсе "БелЮніёр 2001 г.".***

Конкурс праходзіў у сакавіку ў Мінску на базе політэхнічнай гімназіі № 6 у рамках VI Рэспубліканскага конкурсу-канферэнцыі даследчых работ школьнікаў. Яго праводзіць наша Міністэрства адукацыі, БДУ і Міжнародны эканамічны універсітэт імя А.Д.Сахарава, а з мінулага года "БелЮніёр" стаў асацыіравацца з Сусветным аглядам навуковай і інжынернай творчасці юных Jntel ISEF, фундатарам якога з'яўляецца карпарацыя Intel.

На сёлетні конкурс "БелЮніёр" было даслана каля 300 творчых вучнёўскіх праектаў са школ усёй Беларусі. Яны тычыліся такіх навук, як матэматыка, інфарматыка, біялогія, хімія і фізіка (і як падраздзел — астраномія і тэхнічная фізіка). Работы гэтых траіх пераможцаў журы назвала унікальнымі па сваёй даследчай глыбіні і арыгінальнымі па навуковых падыходах.

Міхаіл Сварычэўскі прысвяціў сваю працу актуальнай тэме — павышэнню эфектыўнасці перадачы рознымі тыпамі мультымедыя дадзеных, у прыватнасці, праз стварэнне вобраза.

Аляксандр Салаў'ёў прапанаваў сваю камп'ютэрную мадэль для вывучэння некаторых цікавых уласцівасцей шаравой маланкі.

Міхаіл Барынаў у сваёй рабоце "Новая сістэма радыёнаглядання за метыярытамі" змог сфармуляваць арыгінальную методыку вызначэння важнейшых параметраў гэтых касмічных цел (скорасць, першапачатковая вага, шчыльнасць і інш.).

Хочацца адзначыць, што ў мінулым годзе дэбют нашых траіх вучняў на Сусветным аглядзе быў вельмі ўдалым — усе атрымалі ўзнагароды. А ў конкурсе бралі ўдзел каля 3 мільёнаў школьнікаў з 45 краін свету. Jntel ISEF лічыцца самым прэстыжным сусветным спаборніцтвам сярод старшакласнікаў, яго завуць яшчэ Нобелеўскай прэміяй сярод маладых. За 52-гадовую гісторыю Сусветных аглядаў пяцёра яго фіналістаў атрымалі ўсё ж такі Нобелеўскія прэміі. Сума прызоў на Jntel ISEF складае больш за 2 мільёны долараў ЗША, а судзяць конкурс прафесары і супрацоўнікі вядучых універсітэтаў і навуковых інстытутаў ЗША.

Будзем спадзявацца, што нашым маладым хлопцам пашанцуе і яны атрымаюць высокія адзнакі за свае навуковыя вышуканні. І можа так стацца, што гэтыя іх першыя крокі ў навуку будуць лёсаноснымі. Тады мы іх імёны пабачым у спісе вядомых вучоных свету.

Як ужо было адзначана, кампанія Jntel з'яўляецца генеральным фундатарам Сусветных аглядаў, але акрамя іх яна арганізуе і ажыццяўляе яшчэ шмат іншых адукацыйных праектаў. Праграма пад назвай "Навучанне дзеля будучыні", напрыклад, мае на мэце навучання настаўнікаў-прадметнікаў рабоце з Інтэрнетам і іншымі інфармацыйнымі тэхналогіямі. Яна рэалізуецца ў 20 краінах свету, і за тры гады плануецца навучыць 500 тысяч педагогаў. З краін Усходняй Еўропы толькі Польшча і Эстонія ўвайшлі ў гэты праект. Беларусь, на жаль, не трапіла ў іх спіс. Мы, так бы мовіць, яшчэ не падрыхтаваны да правядзення падобнай акцыі, бо не ва ўсіх нашых школах ёсць камп'ютэры, не кажучы ўжо пра іх выхад у Інтэрнет. Па другое, нашы настаўнікі і іх кіраўнікі яшчэ не зразумелі, якія выгады ім могуць прынесці новыя інфармацыйныя тэхналогіі. Таму нам трэба брацца за ліквідацыю сваёй камп'ютэрнай неадукаванасці. Нашы вучні ўжо гэта зразумелі, а вось настаўнікі...

**Святлана КІРСАНАВА.**

## Запрашаем на выставу

У адпаведнасці з планам мерапрыемстваў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у рамках пастаянна дзеючай выставы "Нацыянальныя падручнікі" з 17.04. па 27.04.2001 года ў Навукова-метадычным цэнтры вучэбнай кнігі і сродкаў навучання праводзіцца II Рэспубліканская выстава "Падрыхтоўка дзяцей 5-гадовага ўзросту да школы".

На выставе будзе экспанавацца вучэбна-метадычная літаратура для педагогаў дашкольных устаноў па праблеме падрыхтоўкі дзяцей 5-гадовага ўзросту да школы, выдадзеная з грыфам НМЦэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання ў 1995-2001 гг., а таксама метадычныя распрацоўкі, аўтарамі якіх з'яўляюцца выкладчыкі ВНУ, ІПК, сярэдніх спецыяльных устаноў, педагогі дашкольных устаноў, работнікі іншых устаноў сістэмы адукацыі, культуры, аховы здароўя.

У рамках выставы плануецца правядзенне "круглага стала" па тэме "Актуальныя праблемы падрыхтоўкі 5-гадовых дзяцей да навучання ў школе ў свеце рэфармавання сістэмы адукацыі", прэс-канферэнцыя па выніках працы мерапрыемства і інш.

*Адрас НМЦэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання: 220013, г.Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 3. Праезд да ст. метро "Акадэмія навук".*

**Дні работы выстаўкі:** аўторак, серада, чацвер з 11-00 да 16-00.

*Даведкі па тэлефонах: 239-87-22; 239-87-29.*

## Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Н.К.Крупскай

# аб'яўляе

### прыём студэнтаў на навучанне без адрыву ад вытворчасці на 2001 год

Прыём праводзіцца па наступных спецыяльнасцях (спецыялізацыях): матэматыка, інфарматыка; беларуская мова і літаратура, руская мова і літаратура; руская мова і літаратура, гісторыя; прафесійнае навучанне (машынабудаванне, аграінжынерыя, будаўніцтва — скарочаны тэрмін навучання); працоўнае навучанне, тэхнічная праца — поўны і скарочаны тэрмін навучання; працоўнае навучанне, абслуговая праца — поўны і скарочаны тэрмін навучання; фізічная культура; біялогія; педагогіка і методыка пачатковага навучання — поўны і скарочаны тэрмін навучання; педагогіка і псіхалогія дашкольная — поўны і скарочаны тэрмін навучання.

На скарочаны тэрмін навучання залічваюцца асобы, якія маюць адпаведную сярэднюю спецыяльную ці прафесійна-тэхнічную адукацыю і працуюць па адпаведнай спецыяльнасці не менш як 6 месяцаў.

Паступаючыя ў інстытут падаюць наступныя дакументы: заяву ўстаноўленага ўзору на імя рэктара; дакумент дзяржаўнага ўзору аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале або яго натарыяльна завераную копію ці ксеракопію (ксеракопія завяраецца прыёмнай камісіяй па арыгіналу); 6 чорна-белых фотакартак памерам 3x4; медыцынскую даведку па форме 086У; выпіску з працоўнай кніжкі (для тых, хто працуе), даведку службы занятасці насельніцтва (для тых, хто знаходзіцца на яе ўліку).

Пашпарт прад'яўляецца абітурыентам асабіста.

**Прыём дакументаў — з 21 красавіка па 15 мая 2001 г.**

**Субяседаванне — 17 — 19 мая 2001 г.**

**Уступныя экзамены — з 21 па 31 мая 2001 г.**

**Наш адрас:** 247760, Мазыр, вул. Студэнцкая, 28. Педінстытут, прыёмная камісія, тэл. 2-15-84.

## Сталі студэнтамі без экзаменаў

***Да ўступных экзаменаў у ВНУ яшчэ цэлых тры месяцы, але ёсць шчаслівчыкі, якія ўжо сёння могуць лічыць сябе студэнтамі. Гэта права яны атрымалі як пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд школьнікаў па спецыялізаваных прадметах. У пачатку красавіка шосты раз у сценах БДЭУ прайшла рэспубліканская алімпіяда школьнікаў па эканоміцы, якая вызначыла трох лепшых выпускнікоў сярэдніх школ Беларусі, ацаніўшы іх веды на "выдатна".***

Пяць конкурсаў "Асновы эканамічнай тэорыі", "Эканамічныя загадкі", "Бізнес-праект школьнай кампаніі", "Маркетынг" і "Асновы інфармацыйных тэхналогій" вызначылі абсалютных пераможцаў алімпіяды. Права паступіць у ВНУ без уступных экзаменаў у складанай конкурснай барацьбе атрымалі выпускнікі мінскай гімназіі № 1 Віталь Смольскі і Іван Станкевіч, сярэдняй школы № 149 Аляксандр Губіч. Ім уручаны дыпломы Міністэрства адукацыі, што пацвярджаюць іх перамогу на рэспубліканскай алімпіядзе.

Журы алімпіяды на чале з рэктарам БДЭУ прафесарам Р.М.Карсека спецыяльнымі прызамі адзначыла таксама актыўны ўдзел у конкурсах старшакласнікаў сельскіх школ краіны. Нягледзячы на тое, што традыцыйна пераможцамі алімпіяды становяцца вучні навучальных устаноў сталіцы, ёсць шэраг сельскіх школ, дзе вялікае значэнне надаецца вывучэнню эканамічных дысцыплін, без ведання якіх немагчымы ўдзел у алімпіядзе. Каманда Мазолаўскай сярэдняй школы-сада Мсціслаўскага раёна пад кіраўніцтвам настаўніка Аляксандра Сямёнава паказала высокі ўзровень падрыхтаванасці. Нядрэнна выступілі на алімпіядзе і вучні Брылеўскай і Баброўскай сярэдніх школ Гомельскай вобласці, што дае ім права ўдзельнічаць у наступным годзе ў аналагічных спаборніцтвах без праходжання раённых і абласных алімпіядных конкурсаў.

Дарэчы, студэнты Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта традыцыйна лічацца моцнымі ў эканамічных навуках не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой. Апошнія гады каманда студэнтаў БДЭУ стабільна перамагае на міжнародных спаборніцтвах па мадэляванні эканомікі і менеджменце. А шлях да такога сур'ёзнага п'едэсталу часам пачынаецца са школьнай парты. Таленавітых юнакоў і дзяўчат кіраўнікі універсітэцкай каманды падбіраюць з ліку ўдзельнікаў рэспубліканскай алімпіяды. На ўрачыстасцях з нагоды ўручэння дыпломаў пераможцам ганаровай граматай БДЭУ за плённую працу была ўзнагароджана асістэнт кафедры рэгіянальнага кіравання Вольга Заўялава, якая і рыхтуе ўдзельнікаў да штогадовых міжнародных спаборніцтваў па МЭіМ.

**Антаніна КУЧКО.**

## Заўтра Вялікдзень — галоўнае хрысціянскае свята года

Дзівоснае свята! Камусьці яшчэ ў дзяцінстве яно запомнілася фарбаванымі яйкамі, камусьці — хросным ходам апоўначы, камусьці — узнёслымі словамі "Хрыстос уваскрэс!" — "Ваісціну ўваскрэс!"

У аснове сучаснага хрысціянскага святкавання Вялікадня ляжыць гісторыя цудатворнага ўваскрэсення Ісуса Хрыста, распятага на крыжы па прыгаворы іўдзейскага суда — сінедрыона, зацверджанага рымскім намеснікам у Іудзеі Понціем Пілатам. Згодна з Евангеллем, Ісус Хрыстос уваскрэс раніцай у нядзелю. Смерць і ўваскрэсенне яго супалі з днямі іўдзейскага свята Пасхі (Песах).

Гэта свята для хрысціян стала днём успамінаў аб жыцці, смерці і ўваскрэсенні Ісуса Хрыста. Хросны ход вакол царквы сімвалізуе сустрэчу з Госпадам па-за храмам, як напамін аб дзевах-міраносіцах, што сустрэлі ўваскрэслага Бога па-за Іерусалімам. Богаслужэнне ў велікодную ноч здзяйсняецца пры адкрытых царскіх варотах іканастаса ў знак таго, што сваім уваскрэсеннем Ісус Хрыстос адкрыў вернікам дарогу на неба.

Велікоднае свята было ўстаноўлена і святкавалася ўжо ў апостальскай царкве. Яно пачалося з часу Уваскрэсення Хрыста.

Надзвычай узнёслае відовішча ўяўляе сабой начное шэсце з запаленымі свечкамі вакол царквы. З алтара выносяць сярэбраны запрастольны крыж, залатое Евангелле, вялізны круглы хлеб - артос, упрыгожаны выявай крыжа. Хросны ход ажыццяўляецца з песняй "Хрыстос васкрэсе з мёртвых".

У самім храме падчас светлай ютрані не змаўкае ні на хвіліну хор. Храм поўны святла і духмянасцей. Іконы, панікадзіла, падсвечнікі — усё ўпрыгожана жывымі кветкамі. Гарыць мноства свечак. І свечкі на Вялікдзень ставяцца асаблівыя, рознакаляровыя.

Евангелле ў велікодную ноч чытаецца на розных мовах: славянскай, рускай, старажытнаяўрэйскай, старажытнагрэчаскай, лацінскай... Гэта сімвалізуе, што пропаведзь аб уваскрэслым Збавіцелі чалавецтва пераможна пранеслася над светам, пакарыла ўсе народы.

Велікодныя абрады ўсім добра вядомыя. Гэта хрыстосаванне, фарбаванне яек, выпечка кулічоў.

Абрад хрыстосавання заключаецца ў абмене пацалункамі пры вымаўленні велікоднага прывітання "Хрыстос уваскрэс!" — "Ваісціну ўваскрэс!"

Хрыстосаванне адбываецца пасля службы. Пасля яе пачынаецца і абмен фарбаванымі яйкамі.

**Фарбаваныя яйкі** — непазбежная прыналежнасць велікоднага разгавення. Яйка сімвалізуе тайну жыцця, яго першааснову. Інакш кажучы, яйка — сімвал не толькі нараджэння, але і адраджэння, узнаўлення. Таму яно стала велікодным сімвалам.

Лічыцца, што першаму велікоднаму яйку ўласцівы ахоўныя якасці: здольнасць спыняць полымя падчас пажару, засцерагаць маёмасць ад злодзеяў.

Па народных паданнях, пажар патухне, калі кінуць у агонь святочнае яйка. Перад выганам на пашу скаціну гладзілі велікодным яйкам, каб яна не хварэла. Умываліся вадой, у якую апускалі фарбаванае святочнае яйка, каб быць здаровымі і прыгожымі. Любімай велікоднай забавай было катанне яек з узгорка ці па спецыяльным жолабе, выраблены з дрэва.

Вялікдзень заўсёды лічыўся сямейным святам. Святкавалі яго сваёй сям'ёй, хадзілі да бліжэйшых родзічаў. Велікодны стол накрываўся на цэлы дзень, і ўсе, хто прыходзіў у хату, запрашаліся гаспадарамі да пачастунку. Асаблівасцю велікоднага стала было мноства разнастайных халодных страў. Заўсёды прынята есці спачатку ўсё свянцонае, а потым іншыя стравы.

Конкурс "Настаўнік года"

Рэспубліканскі конкурс прафесійнага майстэрства педагогаў
Мінск 2001
Крыштальны журавель

# Хто выйдзе ў шасцёрку суперфіналістаў?

*Закончыўся першы этап Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства педагогаў "Крыштальны журавель" — на раённым (гарадскім) і абласным узроўнях. Ужо вядомы прозвішчы дваццаці двух пераможцаў абласных конкурсаў, якія ўвайшлі ў фінал. Хто яны? Пра некаторых з іх вы прачытаеце ніжэй. Нехта з гэтых канкурсантаў трапіць у шасцёрку суперфіналістаў.*

*Нагадаем, што фінал конкурсу адбудзецца з 17 па 28 красавіка.*

*Арганізацыйна-метадычнае забеспячэнне заключнага этапа конкурсу ўскладзена на Акадэмію паслядыпломнай адукацыі. Сёлета ўпершыню для фіналістаў напярэдадні фіналу — з 9 па 11 красавіка — тут быў арганізаваны ўводны трохдзённы семінар з мэтай адаптаваць настаўнікаў-канкурсантаў і пагрузіць іх у атмасферу будучага мерапрыемства, пазнаёміць і здружыць іх.*

*— Вы многае ўмееце рабіць, але часам не ведаеце, як пра гэта расказаць, падзяліцца ўласным вопытам, — сказала Ірына Віктараўна Багачова, адказны сакратар арганізацыйнага камітэта конкурсу у час першай сустрэчы фіналістаў на псіхалагічнай гульні "Знаёмства". — Наша мэта — навучыць вас гэтаму. Бо, як сведчыць практыка, часам канкурэнты недаравальна губляюць балы з-за няведання элементарна простых рэчаў. У змест семінара ўключана лекцыя на тэму "Мадэльнае ўяўленне і тэхналогіі трансляцыі вопыту"...*

*За гэтыя тры дні канкурсанты праслухалі шэраг лекцый выкладчыкаў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі аб сучасных адукацыйных тэхналогіях і псіхалагічных падыходах да ўрока, структуры прафесійнай дзейнасці педагога, методыках і тэхналогіях выхавання, асобасна каштоўнаснай канцэпцыі зместу адукацыі і інш. Настаўнікам-канкурсантам была прадастаўлена магчымасць паглядзець відэазапісы конкурсных урокаў 1997 года і трэнінг па іх аналізе, з імі праведзены відэатрэнінг "Самапрэзентацыя", а таксама хобі-клуб "Свет маіх захапленняў". Спецыялісты-аналітыкі лічаць, што семінар будзе на карысць кожнаму фіналісту.*

*Поспехаў вам у фінале, дарагія канкурсанты!*

**Святлана БЕНЬ.**

## ГРОДНА

У Гродне ў абласным конкурсе прафесійнага майстэрства педагогаў "Настаўнік года-2001" удзельнічала васемнаццаць канкурсантаў, якія перамаглі ў раённых турах. Гэта настаўнікі пачатковых класаў, матэматыкі, геаграфіі, фізікі, гісторыі, беларускай мовы і літаратуры, сусветнай мастацкай культуры.

Конкурс праходзіў у некалькі этапаў, але асноўную ўвагу журы надавала відэаўрокам, прадстаўленым канкурсантамі, і правядзенню імі адкрытых урокаў у школах Гродна. Журы і аргкамітэт распрацавалі крытэрыі ацэнкі дзейства, якія дазволілі з большай аб'ектыўнасцю вызначыць суперфіналістаў.

У суперфінал выйшла сем педагогаў, якія павялі барацьбу за магчымасць удзелу ў рэспубліканскім конкурсе. Ім давялося адстойваць свае правы быць першымі ў наступных конкурсах педагагічнага майстэрства: адкрыты міні-ўрок (па заданні журы); прадстаўленне і абарона аўтарскіх праектаў "У новы век з новымі...", педагагічны брэйн-рынг.

Як адзначыла журы, вельмі цікава прайшлі міні-ўрокі. На іх у ролі вучняў былі тыя канкурсанты, якія не выйшлі ў суперфінал. Яны вельмі старанна і плённа папрацавалі на міні-ўроках, выконваючы ролі і першакласнікаў, і старшакласнікаў, ствараючы роўныя і творчыя ўмовы для суперфіналістаў.

Гродзенскі абласны конкурс паказаў высокі прафесійны ўзровень педагогаў і раскрыў іх таленты, эрудыцыю, артыстызм.

Пераможцамі абласнога і будучымі ўдзельнікамі рэспубліканскага конкурсу педагогаў "Крыштальны журавель" сталі: Алег Леанідавіч Леановіч, настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 2 Слоніма; Анатолій Эдуардавіч Мацюк, настаўнік фізікі сярэдняй школы № 1 Ліды; Святлана Іванаўна Палубятка, настаўніца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 5 Мастоў.

Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі каштоўныя прызы і граматы абласнога ўпраўлення адукацыі.

**Клаўдзія СЯКАЦКАЯ,
метадыст вышэйшай катэгорыі
ўпраўлення
вучэбна-метадычнай работы
Акадэміі паслядыпломнай
адукацыі, выдатнік адукацыі
Рэспублікі Беларусь.**

## ПІНСК

У Пінску адбыўся чарговы конкурс "Настаўнік года", які стаў ужо добрай традыцыяй.

У ім прынялі ўдзел лепшых настаўнікаў горада: Г.Б.Бруцкая (гімназія №2), Г.М.Есьман (сярэдняя школа №11), С.М.Багатка (сярэдняя школа №12), В.Б.Пацоўская (гімназія №3 імя В.З.Каржа), Е.М.Лабачэўская (гімназія №3), А.І.Палюховіч (сярэдняя школа №14), С.І.Федарына (сярэдняя школа №16).

Г.М.Есьман, настаўніца рускай мовы і літаратуры, прадставіла свае напрацоўкі: удасканаленыя камбінаваныя ўрокі, урокі-"суды", "расследаванні", пастаноўкі. Для кантролю ўзроўню ведаў настаўніца распрацоўвае праграмаваныя заданні і тэсты. Асноўным паказчыкам добрай ацэнкі работы з'яўляецца тое, што дзеці пасля заканчэння ўрока працягваюць гаварыць на тэму, пачатую ў класе. Галоўным тэзісам, які вызначае яе прафесійную дзейнасць настаўніцы, з'яўляецца імкненне да ўдасканалення педагагічнага майстэрства. "Без імкнення да дасканаласці я перастану лічыць сябе настаўнікам".

У жартоўнай вершаванай інсцэніроўцы цікава, выразна і з душой была паказана ўся творчая і прафесійная біяграфія Г.Б.Бруцкай.

"Добрая, пяшчотная, мілая фея — наша Алена Іванаўна Палюховіч". Так пра настаўніцу пачатковых класаў сярэдняй школы №14 гавораць настаўнікі і вучні. А яна адказвае, што без чыстых вачэй, усмешак і гэтых "чамучак" не ўяўляе свайго жыцця. Клас Алены Іванаўны — гэта дом дабра, утульнасці, сардэчнасці.

Другая адукацыя псіхолага дапамагае настаўніцы сярэдняй школы №12 С.М.Багатка ўкараняць у работу прынцыпы "Асоба — галоўная каштоўнасць грамадства" і "Настаўнік і вучань — саюзнікі".

Удзельнік пад нумарам 5 — С.І.Федарына — у форме "другога я" арыгінальна, лаканічна і з гумарам аддае сябе ў "арэнду" на дзве гадзіны тым, хто сабраўся ў гэты дзень у зале. Сяргей Іванавіч расказвае, як ён у сваёй рабоце выкарыстоўвае сучасныя тэхналогіі, праводзіць інтэграваныя ўрокі, ажыццяўляе групавую форму работы, камп'ютэрнае праграмаванае навучанне. Ім складзены шэраг праграм па фізіцы для 7 класа з рознаўзроўневымі заданнямі. Сяргей Іванавіч мае свой электронны адрас, што дае магчымасць пашырыць магчымасці збірання сусветных ведаў па прадмеце, які ён выкладае, і павышаць свой прафесійны ўзровень. Усім было цікава таксама паглядзець відэаздымкі, зробленыя Сяргеем Іванавічам з жыцця школы №16, што засведчыла: работа ў школе не заканчваецца са званком з урока.

Стварыць умовы для развіцця таленту вучня — адна з галоўных задач у рабоце ўдзельніцы конкурсу В.Б.Пацоўскай.

— Дзіця не павінна баяцца памыліцца ў адказе, — лічыць Вольга Барысаўна. — Я стаўлю адзнаку толькі на кантрольных уроках, што разнявольвае вучня. Мне важна высветліць, чаму некаторым вучням у класе цяжка даецца матэматыка.

Настаўніца стварыла праект "дадатку да падручніка геаметрыі" для 7-8 класаў. Удзячнасць сваёй любімай настаўніцы выказаў у сваім вершы-дзеі "Настаўнік" вучань 8 класа Ілля Казлоў.

А.М.Лабачэўская прадстаўляе сваю праграму "Выхаванне душы чалавека". Праз сапраўдную прыгажосць абуджаць лепшыя рысы чалавечага характару. Пад кіраўніцтвам Алены Мікалаеўны яе вучні пішуць цікавыя творчыя работы па прадмеце.

Шлях да фіналу быў складаны. Гэта інтэлектуальны конкурс, конкурс педагагічных сітуацый. Усе ўдзельнікі паказалі сябе знаходлівымі, разумнымі педагогамі, псіхолагамі дзіцячай душы.

А ў конкурсе "Свет нашых захапленняў" удзельнікі прадэманстравалі ўсю паўнату сваіх асабістых якасцяў, а таксама і хобі. Падарожжы Г.М.Есьман з класам па цудоўных кутках Беларусі дапамагаюць зблізіцца з вучнямі, раскрыць характар кожнага з іх, і праз любоў да роднага краю выхаваць іх духоўна багатымі людзьмі.

Варта адзначыць таксама захапленне С.М.Багатка і членаў калектыву яе школы. Яны прапагандуюць здаровы лад жыцця і, даючы прыклад сваім вучням, рэгулярна наведваюць заняткі ў клубе шэйпінгу і аэробікі.

У конкурсе "У новае стагоддзе з новымі ідэямі" ўдзельнікі заяўлялі свае загадзя падрыхтаваныя і аргументаваныя праекты. Цалкам рэальны і цікавы Праект трохступеньчатай мадэлі новай школы настаўніцы сярэдняй школы №11 Г.М.Есьман. Праект школы будучыні С.І.Федарыны мае на мэце адаптацыю вучня ў навакольным свеце. Удасканаленыя падручнікі, на думку А.М.Лабачэўскай, павінны знайсці адлюстраванне ў рэформе школы XXI стагоддзя.

Палеміку выклікаў праект В.Б.Пацоўскай, у якім яна ўзняла праблему дыферэнцыяцыі вучняў па здольнасцях і ўзроўні ведаў.

— Дзецям уласціва імкненне да лепшых вынікаў, — лічыць Вольга Барысаўна, — а такое раздзяленне абмяжоўвае іх магчымасці і выпрацоўвае ў дзіцяці комплекс непаўнацэннасці.

Удзельнікам важна была не толькі ацэнка журы, але вучняў і бацькоў. Дзеці сваім удзелам у групах падтрымкі дэманстравалі такім чынам павагу, любоў і ўдзячнасць да свайго настаўніка. "У сярэдняй школе №11, дзе вучыцца мая дачка, падтрымліваецца цесная сувязь з бацькамі. Нас запрашаюць на ўсемагчымыя пазакласныя мерапрыемствы. І сёння я перажываю за настаўніцу рускай мовы і літаратуры Г.М.Есьман. І выкажу, напэўна, меркаванне многіх бацькоў, — гаворыць Н.А.Ліцвіновіч, — калі скажу, што нашым дзецям пашчасціла, бо яны вучацца ў настаўнікаў, якія ведаюць сваю справу".

І вось нарэшце прабіў час фіналу. Кампетэнтнае журы конкурсу, у склад якога ўваходзілі Э.М.Яленскі, начальнік аддзела адукацыі (старшыня), М.М.Карасюк, старшыня гаркама прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі і іншыя паважаныя работнікі адукацыі горада, па заслугах ацаніла старанні ўсіх удзельнікаў і вызначыла пераможцаў. Імі сталі С.І.Федарына (І месца), А.І.Палюховіч (ІІ месца) і Г.М.Есьман (ІІІ месца).

— У нашым конкурсе, — адзначыла яго натхніцель і арганізатар намеснік начальніка аддзела адукацыі Л.І.Кохнюк, — няма пераможаных. Бо ўдзел у ім — гэта гонар, давер калег і сведчанне высокіх прафесійных якасцяў настаўніка.

**Таццяна ЛУКАШЫК,
студэнтка факультэта
журналістыкі БДУ**

## БРЭСТ

Нядаўна Брэст ператварыўся ў сталіцу педагагічнага майстэрства. А прычынай таму стаў конкурс, які прайшоў у горадзе, — "Настаўнік года вобласці-2001". Ён даў рэдкую магчымасць слухаць жывы голас настаўніка не толькі дзецям і журы, але і гледачам, якія хварэлі душой за ўдзельнікаў у першы і трэці дні конкурсу.

Конкурс аказаўся шчодрым на педагагічныя таленты і падараваў гледачам радасць адкрыццяў і прыемныя сустрэчы з яго ўдзельнікамі, якія праявілі неабмежаваную свабоду фантазіі і творчага пошуку, педагагічнае майстэрства і асаблівую сілу ўздзеяння на вучняў.

Праграма конкурсу была дастаткова насычанай. Асобна хочацца сказаць аб прадстаўленні і абароне адукацыйнага праекта "У новае стагоддзе з новымі...". У праектах настаўнікі адлюстравалі свае ідэі, ажыццявілі ўяўленні пра тое, якімі павінны быць сучасныя настаўнікі і вучні і іх узаемаадносіны, якія каштоўнасці будуць прыярытэтнымі ў XXI стагоддзі, якімі павінны быць падручнікі.

Формы прадстаўлення гэтых ідэй былі рознымі, але ўдалымі, арганічнымі як па візуальным ўвасабленні, так і па змесце: гэта і эсэ, і маналог, і спевы пад гітару, і навуковае абгрунтаванне праекта, і да т.п.

Цудоўнымі былі ўрокі, якія ўдзельнікі давалі ў незнаёмым класе. Хоць па тым, як актыўна і з задавальненнем працавалі на іх вучні, цяжка было паверыць, што гэта "чужы" настаўнік прыйшоў у "чужы" клас. Паказчык паспяховай работы настаўніка — гэта і апладысменты журы і вучняў у канцы ўрока.

Найбольш інтрыгуючымі момантамі азнаменаваўся творчы конкурс удзельнікаў суперфіналу, які ўключыў у сябе інтэлектуальны брэйн-рынг, розыгрыш педагагічных сітуацый. Гэты этап патрабаваў ад канкурсантаў артыстызму, арыгінальнасці, дасціпнасці, навыкаў імправізацыі, вынаходлівасці, элегантнасці і нават сілы волі.

Узровень падрыхтоўкі ўдзельнікаў суперфіналу быў настолькі высокі, што журы на чале са старшынёю, першым прарэктарам Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна, кандыдатам філалагічных навук Станіславам Рыгоравічам Рачэўскім вырашыла адзначыць усіх. Так, настаўніца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 27 Брэста Таццяна Андрэеўна Федзюкова была ўзнагароджана ў намінацыі "Сапраўднаму настаўніку — дастойнаму выпускніку Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта", настаўніца выяўленчага мастацтва сярэдняй школы № 10 Брэста Ала Сцяпанаўна Козік — у намінацыі "За дастойны працяг педагагічнай дынастыі" (12 членаў розных пакаленняў яе сям'і — работнікі сістэмы адукацыі), настаўніца геаграфіі сярэдняй школы № 2 Рэчыцы Столінскага раёна Тамара Міхайлаўна Паўдайка — у намінацыі "Вернаму служыцелю школы ў беларускай глыбінцы", настаўніца рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 4 Кобрына Раіса Фёдараўна Назаранка — у намінацыі "Настаўніку — песняру грамадзянскасці".

Права прадстаўляць Брэсцкую вобласць на Рэспубліканскім конкурсе прафесійнага майстэрства педагогаў "Крыштальны журавель-2001" атрымалі наступныя пераможцы суперфіналу:

Вадзім Паўлавіч Шпетны, настаўнік геаграфіі Ланскай сярэдняй школы Маларыцкага раёна;

Сяргей Іванавіч Федарына, настаўнік фізікі сярэдняй школы № 16 Пінска;

Святлана Станіславаўна Сідаровіч, настаўнік беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 2 Баранавічаў.

Адно з самых моцных уражанняў конкурсу — гэта яго высокі ўзровень арганізацыі і культуры правядзення, дзякуючы чаму конкурс стаў сапраўдным святам для яго ўдзельнікаў і жыхароў горада. Цудоўнае музычнае суправаджэнне, з густам падабраная канцэртная праграма, удзел маладзёжнай тэатральнай студыі, светлавыя спецэфекты, вітанне ўдзельнікаў конкурсу работнікам адукацыі Расіі — усё гэта не толькі моцна ўразіла, але і надало падзеі асаблівае, сімвалічнае значэнне: мы — на парозе якасных змен у нашай адукацыі.

Для таго каб свята адбылося, вялікая работа была праведзена арганізацыйным камітэтам на чале з яго старшынёй намеснікам начальніка ўпраўлення адукацыі аблвыканкама кандыдатам педагагічных навук Людмілай Рыгораўнай Германовіч.

Конкурс яшчэ раз паказаў, што нягледзячы на ўсе складанасці наша настаўніцтва цікавым і разнастайным жыццём. Прафесійнае ж майстэрства педагогаў — гэта сапраўды залатаносная жыла, рэсурсы якой невычэрпныя. І адпрацаваць залацінкі настаўніцкіх талентаў — вялікая радасць.

**Марына ГОЛУБАВА,
метадыст вышэйшай
катэгорыі
ўпраўлення
вучэбна-метадычнай работы
Акадэміі паслядыпломнай
адукацыі..**

## МАГІЛЁЎ

З 20 па 23 сакавіка пры Магілёўскім абласным інстытуце павышэння кваліфікацыі праходзіў абласны конкурс "Настаўнік года-2001". У ім прынялі ўдзел шаснаццаць канкурсантаў. Гэта пераможцы раённых конкурсаў: настаўнікі фізікі, геаграфіі, беларускай мовы і літаратуры, рускай мовы і літаратуры, замежнай мовы, біялогіі, гісторыі, абслуговай працы, музыкі, настаўнікі-дэфектолагі і настаўнікі пачатковых класаў. Усе яны паказалі сябе выдатнымі спецыялістамі, майстрамі сваёй справы. І няхай у суперфінал выйшлі толькі шэсць чалавек, але ўсе канкурсанты на кожным этапе конкурсу выглядалі прафесійна. Новыя педагагічныя тэхналогіі ў навучанні паказалі Святлана Васільеўна Дзюбенка (Асіповіцкая гімназія № 1) і Таццяна Аляксееўна Журоўская (сярэдняя школа № 1 Крычава). Літаральна заваражылі веданнем свайго прадмета настаўнікі геаграфіі Святлана Яфімаўна Юргелас (Магілёў, гімназія № 1) і Ларыса Васільеўна Падабед (Клімавічы, сярэдняя школа № 3), гісторыі — Ала Уладзіміраўна Фаміна (сярэдняя школа № 1 Мсціслава) і Святлана Алегаўна Маргунова (сярэдняя школа № 2 г.п. Краснаполле), беларускай мовы і літаратуры — Аляксандр Фёдаравіч Хахлоў (Мышкавіцкая сярэдняя школа) і Таццяна Іванаўна Балдышэўская (сярэдняя школа № 1 Бялынічаў). А як захоплена працавалі вучні пачатковых класаў з такімі настаўнікамі, як Святлана Уладзіміраўна Канавал (сярэдняя школа № 2 Чэрыкава) і Вольга Іванаўна Лугоўская (Кадзінская сярэдняя школа)! І хіба не ўзнагарода для настаўніка, калі пасля конкурснага ўрока вучні 25-й сярэдняй школы, на базе якой праводзіліся конкурсныя ўрокі, спыталі ў дырэктара: "А ці можна ў школе пакінуць такіх настаўнікаў?"

Але конкурс ёсць конкурс. Журы строга і па заслуга ацаніла лепшых. Імі сталі Святлана Васільеўна Дзюбенка, настаўніца фізікі Асіповіцкай гімназіі; Святлана Яфімаўна Юргелас, настаўніца геаграфіі Магілёўскай гімназіі № 1; Вольга Іванаўна Лугоўская, настаўнік-дэфектолаг Кадзінскай сярэдняй школы.

**Наталля КАРПАВА,
метадыст вышэйшай
катэгорыі ўпраўлення
вучэбна-метадычнай работы
Акадэміі
паслядыпломнай
адукацыі.**

## ГОМЕЛЬ

У пачатку красавіка ў Гомелі адбыўся абласны этап конкурсу прафесійнага майстэрства педагогаў "Настаўнік года-2001". У выніку адборачнага тура ў фінал конкурсу выйшлі восем настаўнікаў. Сярод іх тры настаўнікі пачатковых класаў, два настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, настаўнік рускай мовы і літаратуры, геаграфіі, біялогіі. Адбор ажыццяўляўся па выніках прадстаўленых матэрыялаў і відэафільму.

Фінал прайшоў вельмі цікава. Настаўнікі павялі сапраўдную барацьбу за магчымасць удзелу ў Рэспубліканскім конкурсе. Ён уключаў: камп'ютэрнае псіхалагічнае тэсціраванне, конкурсны ўрок-загатоўку, конкурсны ўрок-экспромт, прадстаўленне і самапрадстаўленне, брэйн-рынг, прадстаўленне і абарону адукацыйнага праекта.

Урокі праводзіліся на базе дзвюх сярэдніх школ Гомеля — № 8 і № 5.

Па выніках конкурсу пераможцамі сталі:

Ірына Юр'еўна Мітраховіч — настаўніца геаграфіі Парыцкай сярэдняй школы Светлагорскага раёна, Алена Аляксандраўна Падрубная — настаўніца рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 10 Гомеля, Таццяна Пятроўна Цвяточнікава — настаўніца пачатковых класаў гімназіі Добруша.

Гомельскі абласны конкурс паказаў высокі прафесійны ўзровень настаўнікаў і раскрыў іх таленты, эрудыцыю. Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі каштоўныя прызы і граматы абласнога Управлення адукацыі.

**Валянціна СЛАБУХА,
метадыст
вышэйшай катэгорыі
управлення
вучэбна-метадычнай
работы АПА.**

Адукацыя ў асобах

# На вяршыні прафесійнага майстэрства

***Галіна Сцяпанаўна Раманавец — чалавек вядомы спецыялістам адукацыі рэспублікі. Куратар школ сталіцы, вядучы інспектар Міністэрства адукацыі па хіміі і біялогіі, вядучы кансультант кіруючых работнікаў і спецыялістаў-асветнікаў, член журы алімпійскага Міжнароднага камітэта па хіміі і біялогіі — вось далёка не поўны пералік таго, чым займаецца гэтая абаяльная творчая жанчына-падзвіжніца.***

Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі, якое стала для яе родным і блізкім, бо тут працуюць калегі-аднадумцы — Наталля Піліпаўна Гаравая, Тамара Мікалаеўна Саўчук, Надзея Мікалаеўна Ганушчанка.

Вясновым сонечным ранкам, па дарозе на працу, Галіна Сцяпанаўна "пракручвае" гісторыю свайго педагагічнага лёсу — шчаслівага лёсу.

Пасля заканчэння ў 1973 годзе факультэта прыродазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М.Горкага Галіна Раманавец працавала выкладчыкам хіміі і біялогіі ў Абацкай васьмігадовай школе Мінскага раёна. Вечары хіміі, паглыбленае вывучэнне біялогіі, школьныя алімпіяды, навуковыя эксперыменты па заданні вучоных, даследчая работа са старшакласнікамі на прышкольным участку... Маладая настаўніца не шкадавала асабістага часу — вучыла, выхоўвала, дапамагала.

Потым былі гады кіраўніцкай дзейнасці — працавала намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Трасцянецкай сярэдняй школы Мінскага раёна.

У Мінскае абласное ўпраўленне адукацыі Раманавец прыйшла вопытным упраўленцам. Інспектаванне выкладання хіміі, біялогіі, кураторства адукацыйнай прасторы асобных рэгіёнаў, падрыхтоўка кадраў хіміка-біялагічнага профілю — гэтымі і іншымі пытаннямі прыходзілася займацца Галіне Раманавец. У яе памяці паўстаюць сотні цудоўных творчых педагогаў, кіраўнікоў школ, інспектараў і метадыстаў раённых аддзелаў адукацыі прысталічнай вобласці.

Як член алімпіяднага міжнароднага журы па хіміі і біялогіі яна сумесна з вопытнымі педагогамі рыхтуе беларускую каманду да міжнародных алімпіяд па прадметах прыродазнаўчага цыкла. І кожны раз перамога неабыходзіць нашых падлеткаў. Так, Іван Гарнастай, Сяргей Маслаў, Алена Трухачова, Сяргей Сямёнаў, Таня Аўчыннікава, Сяргей Федзянін, Юра Любецкі, Іна Урбановіч сталі юнымі зоркамі на алімпіядах па хіміі, біялогіі за мяжой.

А ўдзельнічаць нашым школьнікам прыходзілася ў прадметных прыродазнаўчых алімпіядах, якія праходзілі ў Расіі, Турцыі, Швецыі, Тайландзе і г.д. І ўсюды "мадам Раманавец" мела магчымасць сказаць сваё меркаванне, сваё слова — з яе думкай лічацца масцітыя прафесары і акадэмікі з замежных дзяржаў.

Дзелавая жанчына, вопытны кіраўнік-упраўленец, мудры дарадца моладзі, шчыры і абаяльны чалавек — такой яе ведае педагагічная грамадскасць рэспублікі, сябры, проста знаёмыя.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,
метадыст Мінскага
абласнога ІПК.**

Скажу добрае слова

# У нагу з часам

***Пасля заканчэння Ваўкавыскага педагагічнага вучылішча Тамара Федчанка была накіравана на працу ў Падсадскаўскую пачатковую школу, што на Уздзеншчыне. Завочна закончыла Мінскі педагагічны універсітэт імя М.Танка.***

Каторы год Тамара Аляксандраўна працуе загадчыцай школы. А працоўны стаж у яе — 15 гадоў. У школе, якую яна ўзначальвае, навучаецца 9 хлопчыкаў і дзяўчынак, з іх 5 дзяцей навучаецца ў другім і чацвёртым класах, дзе настаўніцай з'яўляецца Т.А.Федчанка. Чатыры хлопчыкі і дзяўчынкі вучацца ў першым класе, дзе настаўніцай калега Т.А.Федчанка і таксама добры педагог з чатырнаццацігадовым стажам Алена Чыгір.

Добрымі словамі адзываюцца пра Тамару Аляксандраўну бацькі дзяцей з вёскі Падсадскія. А ў аддзеле адукацыі Уздзенскага райвыканкама адзначылі, што яна як педагог творчая і самастойная. Умела выкарыстоўвае тэхналогіі і прыёмы выкладання прадметаў, што дае магчымасць дзецям вучыцца ўзаемакантролю, даваць ацэнку сваёй і чужой працы, своечасова дапамагчы слабейшаму. Гэта развівае актыўнасць на ўроку, выхоўвае адказнасць, надае ведам вучняў грунтоўнасць і якасць. Асабістая абаяльнасць, душэўнасць і ў той жа час сціпласць дапамагаюць Т.А.Федчанка стварыць атмасферу ўзаемадапамогі і павагі сярод вучняў.

Павагу заслужыла Тамара Аляксандраўна і сярод калег школ раёна. Напрыканцы мінулага года яна ўдзельнічала ў раённым злёце перадавікоў народнай гаспадаркі, дзе атрымала каштоўны падарунак.

**Мікалай БУЛАТ,
супрацоўнік
уздзенскай
раённай газеты
"Чырвона зорка".**

НА ЗДЫМКУ: Т.А.Федчанка.

Выхаваўчы трэнінг

# Каб дзіця вырасла не ўпартым, а настойлівым

Часцей за ўсё ў жыцці жанчыны рэалізуюць свой індывідуальны выбар, а не навязаную чужую волю. Адукацыя, праца, кар'ера, сям'я, дзіця, самавызначэнне, праяўленне, вывучэнне, фарміраванне, станаўленне, развіццё, выхаванне... Нельга лічыць, што кар'ера больш важная, чым мацярынства. Жанчына павінна рэалізавацца не толькі як дзелавы партнёр, але і як жанчына, як маці, даўшы пачатак новаму жыццю. Утульны сямейны ачаг і шчаслівыя дзеці — адзін з самых універсальных жыццёвых арыенціраў для большасці жанчын, істотная ўмова іх фізічнага і псіхалагічнага камфорту. А гэта значыць, што ўсе "ахвяры", прынесеныя на гэты алтар, не супярэчаць яе прафесійнай кар'еры. Аднак многія "кар'ерысткі" так загружаюць сябе працай, што ім даводзіцца нагадваць пра адказныя паводзіны ў дачыненні да ўласных дзяцей, якія незаўважана адсоўваюцца на другі, трэці, дзясяты план. Такая мама часта становіцца далёкай, недасягальнай для дзіцяці, як і дзіця для маці. А гэтая недапушчальная памылка прыносіць шмат пакут і праблем у будучым. Таму, калі яшчэ не позна, паспрабуйце зблізіць ваша апасродкаванае жыццё з непасрэдным дзіцячым; каб ішоў працэс перацякання аднаго ў другога. Вы здолееце адкрыць яшчэ непазнаныя куточкі душ. Перад вамі раскрыецца гарызонт магчымасцей, калі вы зразумееце, што трэба не "шмат мець", а правільна карыстацца тым, што маеце.

Дзеці вельмі чуйна ўспрымаюць навакольную рэальнасць. Яны літаральна капіруюць блізкіх ім людзей. Бацькі з'яўляюцца першым узорам, на які свядома і несвядома раўняецца дзіця. Таму яны павінны старацца дасягаць гармоніі ў навучанні, выхаванні і развіцці сваіх дзяцей. Вопыт — ключ да навучання. Мы раім вам не пакідаць гэтыя псіхолага-педагагічныя працэсы без вашага актыўнага ўдзелу. Калі вы хочаце, каб ваша дзіця вырасла **не ўпартым, а настойлівым, развівайце яго волю**. Настойлівасць — самая каштоўная якасць моцнай волі — заключаецца ў тым, каб няўхільна, нягледзячы на перашкоды, даводзіць распачатую справу да канца, дамагаючыся ажыццяўлення сваёй мэты. Яе трэба выхоўваць на практыцы, на справе. Неабходна не забываць, што ў кожнай сям'і пры пэўных абставінах будуць вынаходзіцца свае метады і прыёмы. Мы раім больш гуляць з дзецьмі. У якасці прыкладу можам прапанаваць новую гульню "Выратуй тапельца", прыдуманую ў мэтах навуковага вывучэння настойлівасці дзяцей 6-гадовага (крытычнага, пераходнага) узросту. Яна можа прымяняцца і для дашкольнікаў, і для малодшых школьнікаў.

Спачатку ўсе члены сям'і рыхтуюць рэквізіт: тры колы і калок. Прыдумваецца гульневы сюжэт. Напрыклад, калі вы нядаўна глядзелі з дзіцем фільм "Тытанік", можна прапанаваць такі:

"Памятаеш фільм "Тытанік"? Уяві сабе, што гэты пакой — мора, калкі — рукі людзей, якія тонуць, а ты — Выратавальнік! Я табе дам тры "выратавальныя колы". Ты будзеш мець магчымасць па чарзе накідваць іх на калок — "руку тапельца". Калі зробіш усе кідкі — скончыцца твой міні-цыкл. Калі спадабаецца, збярэш колы і пачнеш новы міні-цыкл гульні. Старайся, каб твае міні-цыклы завяршаліся выратаваннем чалавека, гэта значыць з трох магчымых пападанняў ты тры разы пацэліў **на калок — "руку тапельца"**. У ходзе гульні ты будзеш ратаваць дарослых людзей дзіцячымі "выратавальнымі коламі". Завяршэнне міні-цыкла накідваннем трох колаў будзе азначаць, што "чалавека, які тоне", абавязкова выратуеш; двух колаў — магчыма, выратуеш; аднаго кола — слабая надзея выратаваць; нуль колаў — чалавек патоне, яго не выратуеш. Твая задача — выратаваць як мага больш "людзей" здалёк.

Калі не атрымаецца з першага разу, спрабуй яшчэ і яшчэ...

Лепшым выратавальнікам стане той, хто зможа здалёк накінуць на "руку тапельца" ўсе дзевяць "выратавальных колаў" (за тры міні-цыклы). Памятай, што з другой пазіцыі кідаюць прафесіяналы, умельцы, майстры сваёй справы; што, толькі навучыўшыся метка рабіць кідкі з "марской" пазіцыі, ты зможаш атрымаць званне сапраўднага Выратавальніка, якое прысвояць пры праверцы кідкоў на вынік. Калі "будучыя Выратавальнікі", маючы тры колы, з другой пазіцыі ("мора") трапяць хоць бы адзін раз колам на калок, то можна лічыць, што іх залічаць у "групу Выратавальнікаў" (пры праверцы выніку). Ты зразумеў, што трэба рабіць, як гуляць? Гатовы ратаваць?"

Дзіця пачынае гуляць, бацькі могуць падключыцца да гульні, паспаборнічаць. Вы станеце бліжэй да сваіх дзяцей, лепш зможаце разумець адзін аднаго пасля такога ўзаемадзеяння.

**Наталля КЛІМОВІЧ,
кандыдат
педагагічных навук.**

Выдатнік адукацыі

# Валодае дарам захапляць і весці за сабой

***У г.п. Каменка, што на Бабруйшчыне, далёка ад крыклівых і шумных сталічных праспектаў, працуе і творыць таленавіты педагог Валерый Ананьевіч Сізоў. Чалавек вялікай эрудыцыі, здольны захапляць вучняў сваім прыкладам і запальваць у сэрцах педагогаў-практыкаў прагу творчасці, непераадольнае жаданне шукаць, эксперыментаваць, змагацца і перамагаць.***

Шлях педагагічнага пошуку для Валерыя Ананьевіча пачаўся ў 1975 годзе разам з уручэннем яму дыплома аб заканчэнні Белдзяржуніверсітэта і прысваеннем спецыяльнасці "Настаўнік фізікі". Затым — некалькі гадоў працы і пошуку ў школе, у ПТВ № 213, што ў г.п. Каменка, каб было цікава навучэнцам, каб навучанне прыносіла ўзаемнае задавальненне.

Сваё педагагічнае крэда сам Валерый Ананьевіч вызначае так: "Настаўнік — інжынер душ дзіцячых і яшчэ мастак, творца... І сцэнарый урока — таксама яго абавязак. Гэта не значыць, што настаўнік — артыст. Ён не іграе, ён гэтым жыве, павінен жыць. Толькі тады дзеці павераць яму, павераць і пойдуць за ім".

В.А.Сізоў акцэнтуе ўвагу на самааналізе сваёй працы, кожнага свайго ўрока. І як гэта правільна. На думку вучонага-практыка Ю.Канаржэўскага: "Сістэмны падыход да самааналізу ўрока фарміруе яго сістэмнае бачанне ў настаўніка і дапамагае апошняму лепш асэнсаваць сваю ўласную работу. Педагог-майстар пачынаецца з аналізу ўласнай працы!"

Уся педагагічная дзейнасць Валерыя Ананьевіча накіравана на асобасна арыентаванае навучанне. Ён працуе над стварэннем сваёй асабістай методыкі выкладання фізікі і астраноміі, выкарыстоўваючы дыферэнцыяваны падыход у навучанні, аператыўнасць кантролю ведаў і ўменняў са зваротнай сувяззю на аснове апытальных лістоў, апорных плакатаў, шматварыянтнай дыдактыкі. Усё гэта садзейнічае больш эфектыўнаму і якаснаму засваенню вучэбнага матэрыялу навучэнцамі.

В.А.Сізоў разам з навучэнцамі ў ПТВ № 213 абсталяваў кабінет фізікі і займальнай фізікі, астранамічную пляцоўку, якія аснашчаны ўсімі неабходнымі нагляднымі дапаможнікамі, дыдактычнымі матэрыяламі, тэхнічнымі сродкамі. Тут, у цытадэлі сваёй творчасці, ён строга і мудра адкрывае дзверы навучэнцам у захапляючы свет навукі.

Валерый Ананьевіч часта праводзіць адкрытыя ўрокі, ахвотна дзеліцца сваім педагагічным майстэрствам і метадычнымі знаходкамі з выкладчыкамі вучылішча, раёна, вобласці і рэспублікі.

В.А.Сізоў — выкладчык вышэйшай катэгорыі, выдатнік народнай адукацыі, выдатнік прафтэхадукацыі, узнагароджаны медалём "За працоўнае навучанне", неаднаразова быў адзначаны ганаровымі граматамі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама, з'яўляецца пераможцам аглядаў-конкурсаў кабінетаў фізікі і астраноміі.

В.А.Сізоў валодае дарам захапляць і весці за сабой. Непасрэдныя ўзаеміны з гэтым Чалавекам і Педагогам усяляюць упэўненасць ва ўласных сілах, раскрываюць унутраныя рэзервы, дапамагаюць выйсці на новы ўзровень прафесіяналізму.

**Н.ЛЕЛЕХАВА,
загадчыца кабінета
агульнаадукацыйнай
падрыхтоўкі Магілёўскага
абласнога вучэбна-метадычнага
цэнтра прафесійнай адукацыі.**

## На паэтычнай хвалі



*Аляксандр Пісарчык скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. З'яўляецца прэзідэнтам асацыяцыі духоўнага адраджэння творчай інтэлігенцыі. Сваю актыўную грамадскую працу спалучае з працай літаратурнай.*

*Мяркуючы па вершах, прапанаваных рэдакцыі, можна сказаць, што іх аўтар — асоба не толькі сацыяльна актыўная, а яшчэ і закаханая.*

*Пажадаем Аляксандру Пісарчыку і надалей поспехаў у службовай дзейнасці і творчага натхнення.*



### Прэлюдыя

*Ахвярую кампазітару Уладзіміру Гаркушу*

Душу разгортвае арган!..
Душа рванулася з астрога.
То нас паклікаў Іяган —
Сын Божы —
Музыкай да Бога.

### У Сафійскім саборы

*Алёне*

Тут розумам святлею і душой.
Перад былым —
схіляюся маўкліва.
Мінулае пачуць
сюды прыйшоў,
І ў сэрцы — моц вясновага
разліву.

Ад грэшнае зямлі і да нябёс
Нядаўна шчэ забытае крыляе.
Няхай той смутак,
што сюды прынёс, —
Пунсовай свечкай
ціха адпалае.
Арган, арган —
высокі боль зямны,
Узлёт надзей і роспачы
кананне.
Вось голас змоўк.
Адно звіняць званы —
Чаканнем даравання
і кахання.

### Незабудка

Радок тваёй пяшчотай
зіхацеў,
Каласаваў,
як сонейка над румам...
Каханая, цяпер, каб і хацеў,
Інакшаю цябе б
і не прыдумаў!

На воблаку любві
маёй жывеш,
Як незабудка боскай
прыгажосці.
Разгадвае душа:
ці толькі ў верш
Глядзела ты вачамі
маладосці?

### Неразвянчаная любоў

На ручнічок любоў
не стане! —
Сказала ты, — я не твая!
Было пралескавым
расстанне...
І гэта — ты?
І гэта — я?

Тваё імя запомніў іней,
У ім вянчальнае святло.
На аблачыне сіне-сіняй
Юнацтва ў песні адплыло.

Перабірае струны дождждык.
Чакае ноч світальных слоў.
І ты, жамчужная, мне дорыш
Неразвянчаную любоў.

### Прыгожае імя

Адсвяціла ноч
патайнай зоркай,
Не заснула ў садзе, як і я.
Ты спытала ўсмешліва і горка:
У яе — прыгожае імя?

Слова страсці свеціцца
каронай,
Асляпляе музыкай святла.
Маладосць
паненкай чарнабровай
Тайна ў храм лю
бові завяла.

Зараніца косы расплятае
З той жа варажбой! —
падумаў я.
А вясна заўсёды
маладая,
У яе — прыгожае імя...

### Пярсцёнак залаты

Сон змарыў і поўню
за аблокамі
І цыганку зорную ў акне.
Адчуваю ў сне,
як ты далонькамі
Дацягнуцца прагнеш
да мяне...

Наша шчасце ў сэрцах
неразлучнае.
Пачуццю не выкрыкнеш:
"Засні!" —
Пад яго настрой радок
развучваю
На струне бяссоннай
цішыні.

Не заснеш і ты, мая харошая,
Успамін аб шчасці шле лісты,
А цыганка зорная выпрошвае
У цябе пярсцёнак залаты.

* * *

Т.Е.-чык
Ты думаеш,
Не помню я цябе?
Мінулага ў каханні не бывае.
Удзячная дзявочай варажбе,
Душа вачэй ад шчасця
не хавае.

Дыханнем
Словы светлыя лаўлю.
Бяссонніца не адпускае
госцю.
Пакутую растрачаным
"люблю",
Жыву тваёй чароўнай
маладосцю.

* * *

Дзікі бераг. Дзікі мёд.
Сонны гул чмяліны.
Затаілася са мной
ты каля каліны.
Снамі ўкрылася раса.
Спіць мурог прымяты.
Залацістая каса
захмялела мятай...
Зоры чэрпаюць ваду
З рэчкі-завітушкі.
"Начаруе ноч бяду!" —
спачувалі птушкі.
Хай даруюцца вачам
І грахі і чары.
Не паверым касачам,
як бы ні крычалі.
Можа, ты, мая бяда,
У красе жаночай?
Не разлучыць нас вада
Ані ўдзень, ні ўночы.

### Элегія

Выносяць да берагу хвалі
Пярсцёнак былінай
княжны —
Каханым яго аддавалі
І не прызначалі цаны.

— Кахаеш? —
спытала дзяўчына.
— Каб ведала, што сапраўды
Кахаю — адкажа сцяжына,
Якая вядзе да вады,
Дастану чароўны агеньчык —
Чароўныя словы скажу...
Віры завязалі ў вузельчык
І рукі яго, і душу.

У поўні дзявочыя слёзы,
Здалося і ён ля ракіт:
Юнак ухапіўся за косы
Заклятай княжною ракі...



У рамках дзеючай ужо другі год беларуска-польскай адукацыйнай праграмы "Экалагічная школа будучага" ў госці да настаўнікаў і школьнікаў мінскай сярэдняй школы № 181 прыбыла дэлегацыя польскіх педагогаў з Зялёнай Гуры. У ёй дзейнічае экалагічнае грамадскае аб'яднанне "Зялёны дуб", тут укаранёны новыя адукацыйныя тэхналогіі па экалагічнай адукацыі і выхаванні.

Калегі з Польшчы азнаёміліся з вопытам беларускіх настаўнікаў, наведалі музей геафака БДУ і дэканат факультэта, з якім у сярэдняй школы № 181 заключаны дагавор аб стварэнні экалагічных ліцэйскіх класаў.

Польскія настаўнікі азнаёміліся з гістарычнымі помнікамі ў Мінску, Заслаўі, Міры, Нясвіжы, паглядзелі спектакль у Купалаўскім тэатры "Чорная панна Нясвіжа".

НА ЗДЫМКУ: госці з Зялёнай Гуры ў Мірскім замку.

**Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА. БЕЛТА.**

## Спадчына

# Думкі побач з песняром

***Вось і прамільгнулі 10 гадоў жыцця Музея-сядзібы Францішка Багушэвіча ў Кушлянах на фоне дзесяці вякоў беларускай гісторыі. Раўнадзенствы змяняліся сонцастаяннямі, потым зноў прыходзілі раўнадзенствы; маланкі прапальвалі знакі на старых дрэвах ад кроны да каранёў, але дрэвы на сядзібе падалі на дзіва рэдка. Бог захаваў для нас гэты куточак як святую зямлю, дзе, аслабеўшы, можна набрацца моцы. Пахадзіць па сцежках, якія пратаптаў для нас чалавек з магутным хрысціянскім Духам, пясняр-барацьбіт прыніжанага народу. Зайсці ў хату і ўдумліва і сцішана паглядзець у вочы паэту, быццам у спавядальні, пакаяцца за сваю слабасць перад жыццём і адчуць, як уваходзяць у Душу разуменне, акрэсленасць і вера. Шмат народу перабыло на сядзібе за гэтыя 10 гадоў. І ў каторы раз я радасна назіраў, як мяняўся чалавек на працягу дзвюх гадзін. Прыходзіў — незнаёмы, растурзаны, стомлены жыццём і клопатамі, а развітаўся — з нейкім асаблівым бляскам у вачах, як родны і блізкі мне чалавек. Гэтую роднасць паміж намі ажыўляў Францішак Багушэвіч — наш продак, наш сімвал, наш гонар! З гэтага вырастае маральная еднасць грамадства і рэальная сіла пачуцця Бацькаўшчыны.***

Францішак Багушэвіч у нашым успрыманні — гэта смеласць, адвага, рашучасць, цвёрдасць у жыцці і ў паэзіі, тое, чаго нам усім не хапае сёння. Прырода надзяліла нас дарам прыветнасці, добразычлівасці, разумення, мяккасці, бескарыслівасці, пачуццёвасці.

Бог літасцівы да нас, бо паслаў нам Ф.Багушэвіча, а следам за ім цэлую плеяду слаўных песняроў. Паэзія заўсёды даецца народу як паратунак. Для расіян — Аляксандр Пушкін, для ўкраінцаў — Тарас Шаўчэнка, для беларусаў — Францішак Багушэвіч. Старадаўняя традыцыя вершаскладання грунтуецца на тым, што, чытаючы верш, праводзіш пэўнае магічнае дзеянне на адрасата. Магутным воінам спяваюць гімны, і яны становяцца яшчэ магутней. Нашых воінаў з большасці вынішчылі. Але мы можам скарыстаць закон паэзіі, які дазваляе спяваць ухвальны гімн, гімн у гонар магутнага воіна, і перад слабым — ад гэтага слабы сам пачынае адчуваць сябе магутным воінам. Гэта не выдумка — гэта старая, забытая традыцыя, якая прасочваецца ва ўсіх культурах. Хто не разумее паэзіі глыбінна — таму такое не растлумачыш. Спяваць нястомна ўхвальныя гімны нашаму народу — ён заслугоўвае гэтага. Наша слабасць — проста перарасход сіл, незапатрабаванасць унутранага патэнцыялу, няўпэўненасць у сваёй вартасці і годнасці. Усе лепшыя здабыткі нашай паэзіі скіраваны менавіта на тое, каб узняць годнасць кожнага і народа ў цэлым. Сёння нам патрэбна, як наталенне смагі, услаўленне далёкага гераічнага мінулага, дзе мы былі моцнымі; акцэнтацыя на нашых! героях, на нашых! святых і святынях. Сёння трэба аб'явіць байкот плакальшчыкам, асабліва з асяроддзя пісьменнікаў, бо гэта небяспечная зараза, якая толькі аслабляе і закамплексоўвае. Галоўнае — пазбавіцца ад пачуцця жалю да сябе. Як толькі гэта адбудзецца — згараць бясследна ўсвятле годнасці ўсе нашыя цёмныя страхі.

Зрокавы і ментальны вобразсімвал для нас сёння — грушадзічка. Яна расце ўсюды: у лесе, на полі, на балоце, на гары, у нізіне, над ярам, пры дарозе. Яна адкрытая вятрам, бурам, маланцы і грому, завірухам і спякоце. Але яна заўсёды буйна цвіце вясной і шмат выспельвае грушак увосень. Наўкола яе, і блізка, і далей, з зярняткаў гнілушак смела ўкараняюцца ў родную зямельку маладыя парасткі. Груша-дзічка шчыра прывітае кожнага падарожнага, пусціць у свой цянёк спякотай, але і балюча ўколе няўдзячнага нахабнага. Яна не саромеецца смаку сваіх пладоў; гэта твая справа: хочаш — частуйся, не падабаецца — не чапай!.. Яна жыве сваім, толькі ёй адпушчаным жыццём і мае за гэта ласку ад Бога і годнае месца пад сонцам.

Патэнцыял мы маем магутнейшы. Але наколькі хутка мы знойдзем сілы, кожны ў сабе, вымавіць нарэшце рашуча і смела: "АЗ ЕСМЬ!" — настолькі хутка мы выйдзем на шлях працвітання. Іншага — нам не дадзена...

Жыве Беларусь!

**Алесь ЖАМОЙЦІН,**
**дырэктар Музея-сядзібы Францішка Багушэвіча.**



НА ЗДЫМКУ: беларускія літаратары Алесь Жамойцін, Леанід Дранько-Майсюк, Навум Гальпяровіч, Уладзімір Ягоўдзік у музеі Ф.Багушэвіча.

**Фота аўтара.**

## Замалёўкі з натуры

# Дыктоўка

То быў перадапошні курс універсітэцкай навукі. Нас, філолагаў, размяркоўвалі на педпрактыку, дзе мы атрымлівалі права самастойна весці ўрокі, дзе табе ні куратара, ні кіраўніка. Іх там няма.

Прадчуваючы, што пры размеркаванні абавязкова атрымаю накіраванне ў вёску, выказаў жаданне паехаць у Крупскі раён. Чаму туды, а не дзе бліжэй ці, можа, нават у Мінск? Ні сабе, ні каму-небудзь са знаёмых я не змог бы штосьці адказаць. Проста хацелася хутчэй уцягнуць на поўныя грудзі тое паветра, якім у будучым давядзецца дыхаць усё астатняе настаўніцкае жыццё.

Школа, куды мяне накіравалі з райана, была невялічкая, напаўняльнасць класаў ужо ў тыя далёкія часы насцярожвала. А ішла ж толькі першая палавіна 60-х гадоў.

Праз колькі дзён самастойнага настаўнічання вырашыў у пятым класе правесці невялічкую дыктоўку. Даверылі ж мне весці рускую мову і літаратуру ў пятым і дзевятых класах.

Падабраў некалькі надзвычай просценькіх сказаў і, выразна прачытаўшы іх вучням, пачаў няспешна дыктаваць. Хадзіў марудлай ступой па класе, паўтараў услых сказы і паміж справай час ад часу зазіраў у сшыткі.

Я ў трэці раз голасна прачытаў чарговы сказ дыктоўкі: "Пруд зарос камышом". І што ж "пашчасціла" мне ўбачыць у сшытку Толі, хлапчука вяртлявага і трошкі неахайнага? (Знарок не называю прозвішча, каб не пакрыўдзіць яго, цяпер ужо пажылога чалавека, і не даць падстаў блізкім і знаёмым для розных кпінаў.) Замест памянёнага сказа ён напісаў: "Пруд за раском ишол".

Пэўна, з-за адсутнасці педагагічнага вопыту я так і не зразумеў: ці ў гэтым хавалася непрызнанне чужой мовы, ці новага настаўніка, ці проста звычайная хлапечая няўважлівасць.

Загадку тых далёкіх год я і па сёння не разгадаў.

# Калі б не муза...

Канец навучальнага года і радаваў абяцаннем хуткага адпачынку, і непакоіў залікам па беларускай літаратуры для тых, хто не вывучаў мову, а заданні па літаратуры меў права адказваць на рускай.

Больш за ўсіх я перажываў за Сашу Грынскага. Высокі, удала складзены юнак, сядзеў на апошняй парце і драмаў, не перашкаджаючы весці ўрок.

Усё яно было б і небяды, калі б Саша хоць адзін раз, хоць на адным уроку літаратуры адказаў бы што-небудзь. Ён сядзеў у класе, але быццам нічога не чуў.

Праўда, на ўсю школу ён лічыўся класным музыкам. Мог іграць на шаснаццаці інструментах! Але ж музыкай не заменіш адказ па беларускай літаратуры, як не заменіш чытаннем кнігі пра розныя прысмакі саміх прысмакаў.

Настаў судны дзень. Я хваляваўся так, нібы мне самому трэба было здаваць залік. А Саша з алімпійскім спакоем стаяў на калідоры, чакаў сваёй чаргі.

Нарэшце прыспела яго чарга "бліснуць" сваім веданнем роднай літаратуры. Без усякіх уступных слоў ён сказаў, што прачытае верш Коласа "Мой родны кут". "Дай, Божа, і нашаму цяляці ды воўка з'есці!" — падумалася мне. Таму і не стаў удакладняць, што гэта не верш, а ўрывак з паэмы.

Як жа я быў уражаны і здзіўлены, калі пачуў яго ўпэўнены адказ. Саша прачытаў урывак якраз у межах таго, што выконваюць мулявінскія "Песняры".

Праз якую гадзіну пасля такой важнай падзеі я сустрэўся з Сашам і пахваліў за адказ, але мімаходзь унёс папраўку, што дэкламаваў ён урывак з паэмы, а не верш.

— Мне хлопцы таксама падказвалі. Толькі ж у магнітафонным запісе ніколі не аб'яўляюць — гэта верш ці ўрывак аднекуль...

— Як гэта? — не ўсё зразумеўшы, запытаўся я.

— Усё, што б я ні рабіў дома, раблю пад музыку. Люблю "Песняроў", — патлумачыў Саша.

У яго жыцці атрымалася так, што адна муза дапамагала другой і выратавала свайго паклонніка.

# Дзіця прыроды

Трэцякласнік Уладак на выдатна скончыў навучальны год і гэтак жа выдатна бавіў вольны час летніх канікулаў.

Аднойчы бацька па нейкіх там справах пачаў збірацца ў сталіцу. А Уладаку так хацелася там пабываць! Ён нясмела папрасіўся ў бацькі. Той адказаў, што за поспехі ў школе і ціхамірныя паводзіны дома абавязкова возьме з сабой.

У горадзе Уладака ўразілі чыстыя вуліцы, пакрытыя асфальтам, высачэнныя і шырачэнныя вітрыны магазінаў, прасторныя, як поле за гумном, плошчы, імклівы і мяккі бег тралейбуса.

І вось непадалёк ад маста цераз Свіслач тралейбус раптоўна спыніўся — з правадоў сарваліся штангі. І адразу ж за акном, амаль насупраць Уладака, абвіслі нейкія вяроўчыны. Хлопчык не вытрымаў і сказаў бацьку:

— Бач, тата, тралейбус распрогся!

Усе, каму давялося гэта пачуць, весела зарагаталі.

**Валянцін ЛЯШЧЫНСКІ,**
**член Саюза журналістаў Беларусі.**

## Гэта цікава

# У маёнтку Ключ — школьнікі з усяго свету...

У самым цэнтры Кобрына, невялікага гарадка на Брэстчыне, прытуліўся цікавы дамок. На дошцы ля ўваходу напісана: "Тут жыў А.В.Сувораў".

Імя палкаводца Аляксандра Васільевіча Суворава цесна звязана з Кобрынам.

У 1794 годзе ён кіраваў тут баявымі аперацыямі. Праз год Кацярына II "у адплату славутых заслуг усяміласціва падаравала ў вечнае і родавае валоданне генерал-фельдмаршалу Сувораву-Рымнікскаму Ключ Кобрынскі з іншымі ключамі, фальваркамі і паселішчамі, у якіх 6922 душы".

Звольнены са службы Паўлам I за прагрэсіўныя перакананні, Аляксандр Васільевіч у сакавіку 1797 года прыехаў у Кобрын, каб пасяліцца тут назаўсёды. Неўзабаве яго прымусова вывезлі адсюль у ссылку, але ён не адзін раз вяртаўся ў Кобрын і жыў там.

Імем Суворава названа вуліца, дзе знаходзіцца музей.

На месцы цэнтральнай сядзібы створаны цудоўны гарадскі парк культуры і адпачынку імя А.Суворава (дарэчы, адзін з самых легендарных і лепшых у Беларусі). Гэта помнік прыроды рэспубліканскага значэння.

Ліпы, клёны і дубы, пад якімі адпачываў і якімі любаваўся вялікі палкаводзец, берагуць людзі.

Захавалася і невялікая сажалка, у якой Сувораў купаўся.

Гэты парк — любімае месца для сустрэч і ў XXI стагоддзі як для дзяцей, так і для іх бацькоў. Людзей розных нацыянальнасцей, з розных куткоў блакітнай планеты Зямля.

**Канстанцін КАРНЯЛЮК.**

# Марк Твен — пра каханне з першага позірку

* * *

Неяк Марка Твена спыталі, ці ведае ён які-небудзь сродак ад кахання з першага позірку.

— Ведаю, — адказаў пісьменнік, — трэба ўважліва паглядзець другі раз.

* * *

Калі Марк Твен атрымаў запрашэнне на пахаванне аднаго сенатара, ён сказаў:

— Я адмовіўся прысутнічаць на пахаванні гэтага чалавека, але паслаў ветлівы ліст, у якім напісаў, што вельмі рады гэтаму мерапрыемству.

* * *

Марк Твен, якога пастаянна падманвалі яго выдаўцы, неяк выйшаў з сябе і вырашыў разарваць адносіны з выдаўцамі, з выдавецтвам "Амерыкэн паблішынг компані", дырэктарам якога быў нейкі Ньютан Кейз. Каб выйграць справу, пісьменнік звярнуўся за дапамогай у адвакацкую кантору Пірса. Атрымаўшы інструкцыі, ён праз некалькі дзён зноў зайшоў да адваката.

— Ну як, вы перадалі іск Ньютану Кейзу? — спытаў адвакат.

— Так, сэр, — адказаў Марк Твен.

— І што ён сказаў?

— Паслаў мяне да д'ябла!

— І што вы зрабілі?

— Як што?! Прыйшоў да вас.

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**

## Праграма тэлеперадач

### ПАНЯДЗЕЛАК, 16 КРАСАВІКА

#### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

**6.30,** 7.10 Добрай раніцы, Беларусь!
**7.00,** 9.00, 11.00, 13.00, 18.00, 23.55 Навіны. **8.00** Рэзананс.
**9.15** Тэлебарометр.
**9.30** Здароўе.
**10.00** "Самазванцы".
**11.10** "Усе мае дзеці".
**12.05** "Новыя прыгоды гномаў".
**13.10** Маст. фільм "Маленькая паслуга".
**14.35** Урокі Н. Наважылавай.
**15.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**15.15** Фільм — дзецям. "Мецічара — звер марскі".
**16.40** Тэленавігатар.
**17.00** "Усе мае дзеці".
**18.25** Палітычныя дыялогі.
**18.50** Зона Ікс.
**19.05** Рамантычная камедыя "Штонішто пра Марту".
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.45** Правы чалавека: погляд у свет.
**22.00** "Самазванцы".
**22.55** Стадыён.
**23.25** Планета "АРТ".

#### ГРТ

**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 2.35 Навіны.
**8.15,** 15.55 "Паветраныя замкі".
**9.10** Поле цудаў.
**10.10** "З лёгкай парай!".
**10.40** Гісторыя аднаго шэдэўра.
**14.20** Зорная гадзіна.
**14.45** ...Да шаснаццаці і старэй.
**15.20** Мультсерыял "Пакемон".
**15.45** "Ералаш".
**17.25** "Вялікая вада". Спецрэпартаж.
**17.45** Чакай мяне.
**18.40** "Хто хоча стаць мільянерам?".
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**21.00** Серыял "X-files".
**21.55** Э. Радзінскі. "Маё тэатральнае жыццё". Фільм 3-ці.
**22.45** Погляд.
**23.50** Серыял "Чалавек ніадкуль".

#### РАСІЯ

Увага!
Канал РТР перанёс серыял "Шалёныя грошы" з 9 красавіка з 16.00 на 14.00. Таму па рэжыму трансляцыі БТ серыяла не будзе.
**16.00,** 19.00, 22.00 Весткі.
**16.30** "Том і Джэры".
**16.40** "Хаджэнне па пакутах".
**18.00** "Камісар Рэкс".
**19.30** Мясцовы час. Весткі — Масква.
**19.50** Прыгодніцкі фільм "Тайна борта 25-16".
**21.35** Міхаіл Жванецкі. "Простыя рэчы".
**22.30** Мясцовы час.
**22.40** Падрабязнасці.
**22.50** Дзяжурная часць.
**23.00** Баявік "Гарадскія тарпеды".
**0.45** Спорт за тыдзень.
**1.40** Вельмі вялікі тэніс.

#### КУЛЬТУРА

**7.05,** 11.30, 13.30, 17.30, 19.30, 23.05 Навіны культуры.
**7.20,** 21.05 Пасля навін...
**7.40** "Дванаццаць месяцаў". Мультфільм.
**8.35** Ф. Мендэльсон. Канцэрт для скрыпкі і фартэпіяна з аркестрам.
**9.10** Тым часам.
**9.35** "Гарылы". Дак. фільм.
**10.30** "Парыжскія тайны". Маст. фільм. 5-я серыя.
**11.40** "Княжна Мэры". Маст. фільм.
**13.45** Мультфільмы.
**14.15** Сферы.
**15.00** Навіны.
**15.10** "Востраў-матылёк".
**15.35** Мультфільм.
**16.05** Звышнавука. "Рускія горкі".
**16.30** "Парыжскія тайны". Маст. фільм. 5-я серыя.
**17.40** Машыны часу. "Наземны космас". **18.05** "З канцэртнай залы".
**18.35** Айчына і лёсы. "Крыловы".
**19.15** Вячэрняя казка.
**19.50,** 21.25 "Хто баіцца Вірджыніі Вульф". Спектакль.
**22.40** Ад кінаавангарда да відэаарта.

#### НТБ

**5.00** Сёння раніцай.
**5.15,** 7.15 Спорт, надвор'е.
**5.20,** 6.20 Крымінал.
**5.35,** 7.40 Карданны вал.
**5.50,** 7.20 У запас.
**6.35** У друк.
**6.50** Тушыце святло.
**7.50,** 0.00 Гадзіна быка.
**7.55** "Вуліцы разбітых ліхтароў".
**9.00,** 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
**9.20** "Вуліцы разбітых ліхтароў-3".
**10.30** "Усяго".
**11.25** Учора ў "Выніках".
**12.45** Лялькі.
**13.30** Стары тэлевізар.
**14.40** У запас.
**15.30** "Элен і рабяты".
**16.10** Футбольны клуб.
**17.05** "О, шчаслівчык!".
**18.30** Герой дня.
**18.45** Крымінал.
**19.05** "Дасье дэтэктыва Дуброўскага".
**20.15** "Крымінальная Расія".
**21.45** Тушыце святло.
**21.55** Камедыя "Прымадонна Мэры". **23.35** Сёння апоўначы.
**0.05** "Антрапалогія".

#### СТБ

**6.00** "Ікс-мен". Мультсерыял.
**6.30** Мультсерыял.
**7.00** "Манітор".
**7.30** Музыка на СТБ.
**7.45** "Выпадковы сведка".
**8.30** "Віртуальны свет".
**8.45** Прыгодніцкая драма "Смерч-2: Пагоня за бурай".
**10.35** Інфармацыйная праграма "168 гадзін Мінска".
**11.05** Драма "Месяцавы прыліў".
**13.20** "Кінаафіша Мінска".
**13.30,** 17.30 Навіны СТБ.
**13.45** Музыка на СТБ.
**14.00** "Пляж".
**15.00** "Сакрэтныя матэрыялы".
**16.00** "Ікс-мен". Мультсерыял.
**16.30** Мультсерыял.
**17.00** "Дарма і Грэг".
**17.45** Гараскоп СТБ.
**17.50** "Культурнае жыццё Мінска".
**18.00** "Раузан". Тэленавела.
**19.00** Выпадковы сведка.
**19.30** Навіны "СТБ-24 гадзіны".
**19.45** "Віртуальны свет".
**20.00** "Мэш".
**20.30** Міжнародныя спартыўныя навіны на СТБ.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Гульні ў падкіднога".
**22.05** Баявік "Смяротаносны ніндзя".
**0.00** Навіны СНД.
**0.15** Футбольны кур'ер.

### АЎТОРАК, 17 КРАСАВІКА

#### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

Тэхнічная прафілактыка да 15.00
**15.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**15.15** "Марсупіламі". Мультсерыял.
**15.40** "Тайны свет Алекс Мак".
**16.05** "5х5".
**17.00** "Таямнічы замак Шамбар". Тэлефільм.
**18.00,** 23.45 Навіны.
**18.20** "Масква—Мінск".
**18.40** Зона Ікс.
**18.50** "Сапраўдны мужчына". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**22.00** "Самазванцы".
**22.55** Ток-шоу "Будні". Свабодныя сродкі насельніцтва.

#### ГРТ

**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 23.20 Навіны.
**8.15,** 15.55 "Паветраныя замкі".
**9.15** "Хто хоча стаць мільянерам?".
**10.15** Пакуль усе дома.
**10.45** Гісторыя аднаго шэдэўра.
**14.20** Цар гары.
**14.45** ...Да шаснаццаці і старэй.
**15.20** "Пакемон".
**15.45** "Ералаш".
**17.25** "Усе падарожжы каманды Кусто".
**17.55** Як гэта было.
**18.40** "Хто хоча стаць мільянерам?".
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**21.00** Камедыя "Трын-трава".
**22.45** "Цывілізацыя".
**23.35** Трылер "Чалавек з кашмара".

#### РАСІЯ

**8.00,** 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
**8.15** Фільм "Любіць па-руску-2".
**10.30** "Санта-Барбара".
**16.30** "Хаджэнне па пакутах".
**18.00** "Камісар Рэкс".
**19.30** Мясцовы час. Весткі — Масква.
**19.50** Фільм "Ахоўваючы Тэс".
**21.30** "Расія — пачатак". Дак. серыял.
**22.30** Мясцовы час.
**22.40** Падрабязнасці.
**22.50** Дзяжурная часць.
**23.00** Мужчына і жанчына.
**23.55** Камедыя "Осцін Пауэрс — міжнародны чалавек-легенда".

#### КУЛЬТУРА

**7.05,** 11.30, 13.30, 17.30, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
**7.20,** 20.20 Пасля навін...
**7.40** "Першая паласа". Маст. фільм.
**9.20** "Лёшкін луг". Дак. фільм 1-я серыя.
**10.15** Л. Дзесятнікаў. "Як стары шарманшчык".
**10.30** "Парыжскія тайны". Маст. фільм. 6-я серыя.
**11.40** "Бэла". Маст. фільм.
**13.45** Разам з Фафалем.
**14.00** Тэлеэнцыклапедыя.
**14.15** Мультфільмы.
**15.00** Навіны.
**15.10** "Востраў-матылёк".
**15.35** Справы жыццёвыя.
**16.00** "Бачу цэль!".
**16.25** "Парыжскія тайны". Маст. фільм. 6-я серыя.
**17.40** "Ноу-хау".
**17.55** Зоркі сусветнага балета.
**18.20** Памяці Уладзіміра Варашылава. **19.00** Вячэрняя казка.
**19.05** "Ох, ужо гэтыя дзеткі". Мультсерыял.
**19.50** "Хто косіць уначы". Дак. фільм.
**20.45** Трэці званок.
**21.15** Фільм "Вясенняя казка".

#### НТБ

**5.00** Сёння раніцай.
**5.15,** 7.15 Спорт, надвор'е.
**5.20,** 6.20 Крымінал.
**5.35,** 7.40 Карданны вал.
**5.50,** 7.20 У запас.
**6.35** У друк.
**6.50** Тушыце святло.
**7.50** Гадзіна быка.
**7.55** "Дасье дэтэктыва Дуброўскага".
**9.00,** 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
**9.25** "Каханне і тайны Сансет Біч".
**10.25** Крымінал.
**11.30** Фільм "Калыханка для мужчын". **13.30** Стары тэлевізар.
**14.40** У запас.
**15.30** "Элен і рабяты".
**16.10** "Страсць".
**17.05** "О, шчасліўчык!".
**18.30** Герой дня.
**18.45** Крымінал.
**19.05** "Дасье дэтэктыва Дуброўскага".
**20.15** "Крымінальная Расія".
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў "Валенсія" (Іспанія) — "Арсенал" (Англія). 1/4 фіналу. Адказны матч.
**23.50** Сёння апоўначы.
**0.15** Дзённік Лігі чэмпіёнаў.

#### СТБ

**6.00** "Ікс-мен".
**6.30** Мультсерыял.
**7.00** "Манітор".
**7.30** Музыка на СТБ.
**7.45** "Выпадковы сведка".
**8.30** Навіны "СТБ-24 гадзіны".
**8.45** Баявік "Смяротаносны ніндзя".
**10.35** "Дыскаверы" на СТБ.
**10.55** "Віртуальны свет".
**11.05** Трылер "Сонца ў зеніце".
**13.20** Кінаафіша Мінска.
**13.30** Навіны СТБ.
**13.45** Міжнародныя спартыўныя навіны на СТБ.
**14.00** "Пляж".
**15.00** "Гульні ў падкіднога".
**16.00** "Ікс-мен".
**16.30** Мультсерыял.
**17.00** "Дарма і Грэг".
**17.30** Навіны СТБ.
**17.45** Гараскоп СТБ.
**17.50** "Культурнае жыццё Мінска".
**18.00** "Раузан". Тэленавела.
**19.00** "Выпадковы сведка".
**19.30** Навіны "СТБ-24 гадзіны".
**19.45** "Віртуальны свет".
**20.00** "Мэш".
**20.30** Міжнародныя спартыўныя навіны на СТБ.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Гульні ў падкіднога".
**22.05** Трылер "Рэбека". 1-я серыя.
**0.10** Навіны СНД.
**0.25** Трылер "Сонца ў зеніце".

**Выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара Пётр ЮДО**

ЗАСНАВАЛЬНІК —МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**Рэгістрацыйны нумар 370.**
ДЗЯРЖАЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА "ДОМ ПРЭСЫ". 22 00 13, МІНСК, вул. Б.ХМЯЛЬНІЦКАГА, 10-а

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ, адукацыйных інавацый - 36-43-62, праблем выхавання, навукі - 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі - 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў - 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем - 36-44-25; культуры - 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы,фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Ала ШАЎЦОВА.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №2093
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 13.4.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.